# БЕЛАРУС

Выдае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне у ЗША
Published by Byelorussian - American Association, Inc.
Address — Адрыс: Byelorussian-American Association, Inc.
435 New Jersey Ave, Brooklyn 7, N. Y., U. S. A.
Падпіска на год $ 2.50 — Subscription per year — $ 2.50
Рэдагуе Рэдакцыйная Калегія

PRICE 10 ¢ ЧАСАПІС БЕЛАРУСАУ У З. Г. А. BYELARUS — WHITERUTHENIAN (BYELORUSSIAN) NEWSPAPER IN THE USA 10 ЦЭНТАЎ

Год IV. № 3 (27) 7 Лютага 1953 г. NEW YORK, N. Y., U. S .A. February 7. 1953 Vol. IV. №2 (27)

## Чакаем апошняга працэсу

Прызнавацца да грахоў, спавядацца зь іх — прыгожая рэч, якая зьяўляецца асноваю маральнага дасканаленьня чалавека. Да гэткае споведзі заклікаюць блізу ўсе рэлігіі сьвету. Але крыху дзіўна выглядае, калі бальшавікі, ведамыя атэістыя й бязбожнікі карыстаюцца споведзяй, „пакаяньнем" у сваіх справах, што-раз прысьвячаючь ім суцэльныя працэсы. І „каюцца" там ня простыя грэшныя людзі, а найчасьцей самыя „галавары", людзі, што ўзначальваюць найважнейшыя савецкія ўрады ці навуковыя ўстановы. Кагадзе, напр. закончыўся зьезд вучоных эканамістых СССР. Гэта быў зьезд ня нейкіх там правінцыялістых спэцыялістых, а зьезд Эканамічнага Інстытуту Акадэміі Навук СССР, які, бязумоўна, і ўдзень і ўначы глядзіць, каб ніводныя досьледы й высновы ні на валасок не разыходзіліся з „геніяльнымі тэорыямі" найвялікшага „навучонага" ўсіх часоў і народаў. Аднак, як выявілася, усе гэтыя вучоныя нагэтулькі мала „навучыліся", што не патрапяць належна зразумець усю бязьмежную „глыбіню" свайго настаўніка — карыфэя ўсіх навукаў.

Бо вось, сам старшыня Інстытуту, праф. К. В. Островитянов пачаў зьезд гэткімі словамі: „Прызнаюся ў сваіх памылках... Шкадую... Шмат кніжок і артыкулаў напісаў я на эканамічныя тэмы, але як галава Інстытуту асабліва зграшыў, бо ў іх скрозь безліч памылкаў, якія прынесьлі ці малую шкоду нашай сацыялістычнай гаспадарцы... Гэтую безьліч сваіх памылак я ўцяміў адно пасьля абвешчаньня геніяльнае працы тав. Сталіна... Гэткія самыя, ці яшчэ большыя памылкі выявіліся ў працах усіх савецкіх эканамістых..."

Найвыдатнейшы савецкі эканаміст, колькі раз ардэнаносец, Варга, які ўжо ня раз „спавядаўся" з сваіх „грахоў", „каецца" таксама й цяпер, а нядаўна савецкія навукоўцы й літаратары „каяліся" перад Ждановым, пасьля перад Вазьнясенскім, сяньня „шкадуюць", што тады „шкадавалі", а заўтра будуць „каяцца" ў тым, да чаго цяпер прызнаюцца. І канца ізнаму спавяданьню ня будзе, аж пакуль той ці іншы, а мо' й добрая палова ўсіх навуковых працаўнікоў СССР не наложаць, наагул, галавою за свае грахі ці памылкі.

Дзе-ж прычына ўсіх гэтых працэсаў і аб чым яны гавораць? Прычына, папершае, ў тым, што самы марксызм, які пакладзены у аснову савецкай „навукі" — ёсьць псэўданавукай і кажная, пабудаваная на ім „праўда", ясна, ня вытрымлівае жыццёвае практыкі. Падругое, вынікі гэтае „навукі" агульна ведамыя, навет самым „вучоным": гэта бяда, голад, фізычная й духовая няволя. Але-ж камуністычная партыя, з „бацькам" на чале, да гэтага ніколі ня прызнаецца й таму, калі гэтыя „гаспадары" бачаць, што іхныя нявольнікі пачынаюць крыху хвалявацца, яны адчыняюць „клапаны бясьпекі", шукаюць і знаходзяць „вінаватых..." і пачынаюцца працэсы „пакаяньня" ў памылках ды навуковых „грахох", уплывах „гнілое заходняе навукі" й г. д.

Зусім інакш дзеіцца ў асяродзьзях заходных навукоўцаў: калі тая ці іншая тэорыя не адпавядае вымогам ці фактам жыцьця, яна звычайна адкідаецца, як фальшывая і ўсё. Нікога за гэта не караюць, ніхто з нічога не спавядаецца... Ведама, у таталітарнай савецкай краіне гэтага быць ня можа, бо гэта было-б канцом і таталітарызму й тырана. Для нас гэтыя працэсы „пакаяньня" цікавыя тым, што яны сьветчаць аб суцэльным банкроцтве марксызму, ды аб тым, што гаспадарка СССР перажывае новы цяжкі крызыс, што бяда й голад там скрозь павялічваюцца, бо з удачаў, ясна, ніхто „спавядацца" й „шкадаваць" за іх ня будзе.

З іншага боку, гэтыя працэсы разьлічаныя й на яшчэ большае памацненьне аўтарытэту „геніяльнага". Незразумела толькі, што гэткае нясьціханнае мацаваньне ягонага аўтарытэту ўсьцяж яшчэ патрэбнае. Сталін-жа ўжо даўно абвешчаны і „сонцам" і „геніям", вышэй чаго сягнуць, запраўды, цяжка. Справа, аднак, ня ў гэтым, а ў тым, што ён усьцяж гэтага патрабуе, каб адхіліць ад сябе віну за няўдачы й галечу на нутраным фронце і каб з яшчэ большым аўтарытэтам брацца за новыя авантуры на вонкавым. Вайна ў Карэі ня скончаная, бо скончыць яе Саветы ня хочуць. Наадварот, яна пашыраецца на Індакітай ды Малаі. Магчымая й новая блякада Бэрліну. Новыя-ж камуністычныя працэсы, накіраваныя супроць жыдоў, выразна сьветчаць, што Сталін узыходзіць на шлях Гітлера й ягонага зьвярынага расізму, на шлях новае сусьветнае разьні і што навет для гэткага „непамыльнага генія", як Сталін, патрэбная дзеля гэтага новая аўрэола „непамыльнасьці".

Як-жа глядзіць дэмакратычны сьвет на гэтыя новыя „чыны" тырана? Агулам можна сказаць, што із нележным зразуменьнем. Вось, што сказаў нядаўна на гэтую тэму б. прэзыдэнт Труман у сваёй разьвітальнай прамове: — „Цяпер вайна ня можа прынесьці нічога іншага, як толькі загубу сталінскага рэжыму й зьнішчэньне ягонае краіны". Але цікава, што прэз. Труман усё яшчэ спадзяецца на зьмену курсу Крамля або шляхам дзяржаўнага перавароту, або рэвалюцыі, або зрады аднаго з сатэлітаў. Пры наяўнасьці ўсіх гэтых, так шматлікіх сяньня, „пакаянных" савецкіх працэсаў, — цяжка ўжо сказаць, што гэтыя спадзяваньні цалкам нерэальныя.

Але, каб яны сталіся запраўды і бяссумлеўна рэальнымі, неабходна паказаць нялюдзкаму „генію" савецкае краіны, што ён на самай справе шмат у чым, і да таго-ж паважна, памыляецца й што ягоная сонечная аўрэоля нішто іншае, як брудная, крывавачырвоная пляма. Здаецца, што новы прэзыдэнт ЗША ген. Айзэнгаўэр якраз гэткі намер мае й яго зьдзейсьніць. Ясна, што гэта быў-бы толькі пачатак новае амэрыканскае палітыкі й вялікім ударам па плянах крамлёўскага падпальшчыка сьвету. Неўзабаве, у сьлед павінны пайсьці іншыя пастановы і так аж да перамогі, аж пакуль адзіны вінавайца ўсіх сяньняшніх няшчасьцяў і працэсаў ня будзе прымушаны „выспавядацца", „пакаяцца" перад сьветам у усіх сваіх нязьлічаных злачынствах на апошнім, і найвялікшым, хіба, гэткім „працэсе".

### СССР

Пасьля „пакаяннага" Зьезду вучоных эканамістых, журнал „Камуніст" ужо перайшоў ад словаў „к делу". Ён папяраджае што ў Савецкім Саюзе яшчэ шмат „людзей з буржуазнымі звычаямі й буржуазнай мараліьлю" навет сярод вучоных, што ўсё гэта „ворагі народу" і слугі „імпэрыялістых", якіх неабходна зьнішчыць. Журнал ужо пачаў выяўляць гэтых „ворагаў". Загадана таксама правесьці гэткі самы „пакаянны" зьезд і сярод румынскіх вучоных.

### ПОЛЬШЧА

У Кракаве адбыўся працэс супраць шэрагу каталіцкіх сьвятароў, названых „амэрыканскімі і ватыканскімі шпікамі". Усе абвінавачаныя, як і трэба, „прызналіся" да віны. Два ксяндзы засуджаныя на смерць, адзін на вечную катаргу, а колькі на зьняволеньне ад 6 да 15 гадоў.

## Абарона Эўропы

Справа абароны Эўропы перад савецкім нападам нарастала паволі, але нясьціханна блізу ад першага-ж дню пасьля заканчэньня Другое Сьветнае Вайны. Два-ж гады таму, калі камуністыя напалі на Карэю, — палажэньне гэтае сталася запраўды небясьпечным. У тыя дні шмат каму здавалася, што ня сяньня-заўтра Масква паўторыць сваю карэйскую спробу, але ўжо ня ў Азіі, а ў Эўропе.

З дапамогаю Канады, а галоўнае — ЗША, бальшыня заходня-эўрапэйскіх краінаў палучылася ў абаронны хаўрус, ведамы пад назваю НЭЙТО. Першым кіраўніком гэтае арганізацыі быў, як ведама, сяньняшні прэзыдэнт ЗША ген. Айзэнгаўэр. За гады дзейнасьці НЭЙТО арганізацыя патрапіла палучыць абаронныя намаганьні зьнішчаных вайною краінаў у запраўдны абаронны фронт ад Нарвэгіі на поўначы Эўропы, да Турэччыны на паўдзенным усходзе.

А намаганьні гэтыя былі запраўды вялікія. Даволі ўявіць сабе тысячы кілямэтраў прасторы навокал Масквы і магчымасьці, якія мае Крэмль, каб накіраваць напад у месца, якое ён выбярэ і аб якім разьведчая служба НЭЙТО даведаецца адно на пару тыдняў перад нападам. Таму на ўсім гэтым вялізарным фронце трэба трымаць гатовыя вялікія арміі, якія маглі-б затрымаць першы напад і даць рэзэрвам магчымасьць перагрупавацца.

Неабходнасьць утрымоўваньня вялікіх арміяў з усім іхным дарагім абсталяваньнем змушае загрожаныя Саветамі краіны Эўропы да вялікага абцяжаньня сваіх буджэтаў. Народныя-ж даходы скрозь паменшалі, дзякуючы разбурэньням, прычыненым нядаўнаю вайною. Зьнішчаныя ня толькі месты, фабрыкі й матар'ялы, але й людзкія рэзэрвы. Ды й абаронная мараль эўрапэйскіх народаў зьніжэла шмат у якіх краінах да хвараблівага ўзроўню.

Ня сьпяць і камуністычныя калёны, наадварот, яны намагаюцца падважыць і тую рэшту цьвярозага глузду, разуменьня патрэбы самаабароны, якія яшчэ жывуць у сьведамасьці ахвяраў мінулае вайны.

Да вялікага гаспадарчага ціску на народныя гаспадаркі краінаў НЭЙТО, выкліканага патрэбаю азброеньня, далучаюцца палітычныя непаразуменьні між народамі Эўропы, ды усьцяж жывыя старыя суседзкія спрэчкі. Вось чаму, умовы НЭЙТО яшчэ й да сяньня не ратыфікаваныя заканадальнымі ўстановамі Нямеччыны й Францыі. Згодна з апошнімі весткамі, вычуваецца, што яшчэ шмат часу пройдзе, пакуль Бонн пагодзіцца на улучэньне нямецкіх дывізыяў у агульна-эўрапэйскую армію. Апошні габінэтны крызіс у Францыі таксама выкліканы француской крытыкай гэтых умоваў. Дэ-голяўцы высоўваюць свае засьцярогі й жадаюць зьменаў. А гэтыя зьмены, у сваю чаргу выклікаюць крытыку супраціўнікаў і гэтак бясконца. А справа абароны — стаіць на месцы.

Каб яшчэ пагоршыць гэтае невясёлае палажэньне, камуністыя падтрымоўваюць вайну ў Індакітаі, ды выклікаюць непарадкі на Маляях. Да гэтае камуністычнае дзейнасьці далучаюцца, бяссумлеву кіраваныя імі-ж, нацыяналістычныя й вызвольныя рухі ў Афрыцы. Эгіпэт напр. прымушае ангельцаў трымаць напагатове вялікія арміі дзеля абароны Суэцу, а Іран трымае ля сваіх узьбярэжжаў ангельскі флёт, што пільнуе блякады Абадану. Францыя таксама трымае вялікую армію вонкі мэтраполіі. Ейныя страты ў Індакітаі, асабліва у камандным складзе, маюць вялікі ўплыў і на палітыку й на гаспадарчае жыцьцё краіны.

Як да сяньня, магутная капіталістычная гаспадарка Захаду, а перадусім Амэрыкі, без вялікшых цяжкасьцяў дапамагае краінам НЭЙТО й не пакіне іх, пакуль яны на добрае ня стануць на собскія ногі. Але трэба спадзявацца, што ЗША будуць што-раз больш намагацца перакінуць частку цяжару з амэрыканскіх плечаў і на краіны НЭЙТО.

На гэтае-ж патрэбная згода між імі, цясьнейшае палітычнае паразуменьне ды ўспраўненьне іхных народных гаспадаркаў. Гэта падчыркваецца сяньня і ўсёй палітыкай г. зв. „халоднага змаганьня". З дзейнасьці Масквы відаць, што яна пакуль што пакладае большую надзею на гаспадарчы й маральна-палітычны ціск на Захад, чымся на зброю. Крэмль адно страшыць вайною й „дражніцца" рознымі блякадамі Бэрліну, партызаншчынай у Інданэзіі, на Маляях, ды сутычкамі ў Карэі.

Якраз Карэя й сьветчыць аб нерашучасьці Сталіна, што датычыць новых „паходаў". Ён ці ня можа, ці ня хоча яшчэ наважыцца на гэта. Магчыма таксама, што гэтая тактыка Масквы – мае на мэце павольнае „выматваньне" нэрваў, трыманьне народаў захаду у вечным страху ды неабходнасьці выдаваньня вялікіх грошаў на зброю.

Калі запраўды прызнаць наяўнасьць гэткага пляну, станецца ясным, што напружанае азброеньне НЭЙТО, якое асягаецца адно коштам разбурэньня гаспадаркаў эўрапэйскіх краінаў — зусім на руку Крамлю. І наадварот, паслабленьне гаспадарчага ціску на краіны НЭЙТО, пры ўтрыманьні, аднак, іхнае абароннае моцы, будзе біць па камуністых іхнаю собскаю зброяй.

Каб гэтак сталася, — гаспадарчыя цяжкасьці ў самых Саветах і ў сатэлітных краінах вырасьлі-б непамерна. Што Саветы ўжо адчуваюць гэтыя цяжкасьці, сьветчыць хваля „чысткаў" і іншых працэсаў, што выклікалі гучнае рэха на ўсім сьвеце. Сталін ня можа прызнацца да банкроцтва свае палітыкі, дык вінаваціць у ім іншых, на гэты раз — жыдоў. Так як у гады вайны Масква пашырала клічы „За родіну, за Сталіна", — яна прабуе сяньня крычэць „бей жыдоў — спасай Расею", каб адцягнуць гэтым увагу жыхарства ад крытычнага думаньня.

Наяўнасьць нутраных прыкрасьцяў і закалотаў у Савецкім Саюзе падчыркваецца шмат кім з назіральнікаў й наведвальнікаў Савецкае краіны. Магчыма, што да бяссумлеўнага сучаснага крызысу у Саветах прычынілася якраз „халодная вайна", гэтак пільна праводжаная Сталіным.

Саветам патрэбная перадышка. Аднак, пэрспэктыва заламаньня Захаду праз розныя Карэі ды Індакітаі гэткая салодкая й прынадная, што Сталін яе не пакіне. І таму стан „ні вайны, ні супакою" будзе трываць і надалей, хоць Крэмль мо' й пастараецца слаць менш ваеннага абсталяваньня ды МІГ-аў сваім сябром.

Калі-ж так, дарма, што немцы й французы затрымліваюць справу, абарона Эўропы будзе праведзеная. Яна пэўнейшая цяпер, чымся калі.

**А. Гарыгляд.**

## Чацьверты Кангрэс БАЗА

**Згодна пастановы Галоўнае Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША (БАЗА) ад 18-га студзеня 1953 году, гадавы, 4-ты па ліку Кангрэс БАЗА, адбудзецца ў Нью-Ёрку 28-га лютага й 1-га сакавіка 1953 сёлета. Еяручы на ўвагу вялікую прастору расьсяленьня нашае эмограцыі ў ЗША, працу дзеля заробку, цяжкасьці й высокія кошты даезду ды інш., — пастаноўлена, што й сёлетні Кангрэс будзе Кангрэсам ДЭЛЕГАЦКІМ. Інструкцыі аб выбарах дэлегатаў разасланыя кіраўніком усіх Аддзелаў і Дэлегатураў БАЗА.**

**Апрача дэлегатаў, на Кангрэс запрашаюцца і ўсе іншыя сябры БАЗА з правам дарадчага голасу. Запрашаюцца таксама і беларусы — не сябры БАЗА, як госьці.**

**Кангрэс адчыняецца 28-га лютага 1953 г. роўна а 9-ай гадзіне раніцы ў залі пад Царквой Сьв. Тройцы, 345 Іст, 4-ая вуліца, Нью-Ёрк.**

**Галоўная Управа БАЗА**

## За нацыянальную дысцыпліну

Нацыянальная сьведамасьць становіць няўпынную рухаючую сілу кажнай грамады. Адно нацыянальная сьведамасьць лучыць, задзіночвае людзей, дае ім сілу для запраўднае творчае працы ў розных галінах чалавечае дзейнасьці, дае ім упэўненасьць у іхнай хадзе да вызначанай мэты. Нацыянальная сьведамасьць — гэта нацыянальнае сумленьне чалавека, якое кіруе ягонымі паводзінамі, у якіх і выяўляецца чысьціня гэтага сумленьня, нацыянальны самаабавязак ды нацыянальная дысцыпліна.

Мы далекія ад тае прымітыўнае думкі, што задзіночанасьць грамады азначае або вядзе да абсалютнае тожсамасьці, штампаванай аднолькавасьці пагляду ўсяе грамады. Гэта азначала-б застой думкі, тыранію над чалавечым духам, незаступным узорам чаго зьяўляецца бальшавізм. Адно разнастайнасьць пагляду, жывая й прынцыповая дыскусія нараджае тое, што называецца грамадзкаю думкаю ды што становіць духовае аблічча ўсяе грамады.

Але згаданая духовая свабода, „бездырэктыўнасьць" мусіць кантралявацца нацыянальным абавязкам і праз гэта ўжо адмаўляецца ўсялякае свавольства ды пустапас. Мы можам і мусім спрачацца, але-ж гэта не азначае дазволу на спэкуляцыю, на гандлярства, не санкцыянуе манаполіі.

На вялікі жаль, мы мусім пра гэта гаварыць сяньня у дачыненьні да пэўнае групы нашае эміграцыі, дакладней кажучы, у дачыненьні да паасобных людзей, якія, шпурнуўшы на бок нацыянальную дысцыпліну, уносяць у эміграцыйнае асяродзьдзе разлад, недавер, падазронасьць, гэта значыць робяць найвялікшы злачын, бо мы так патрабуем адзінства ды ўзаемнае павагі ў нашых шэрагах.

Спрэчкі, што мелі-б быць прынцыповымі й патрэбнымі, з волі гэтых людзей ператвараюцца у падшэпты й нашэпты, навет запалохваньне. У гэткіх умовах аргумэнтацыю заступае крыклівае ўлюлюканьне. І як апошні ды найбольш „пераканальны дыскусыйны" сродак выпаўзае наўзьверх брудны данос. Для гэтых людзей няма ніякіх чалавечых нормаў паводзінаў. Эміграцыя зьявілася найлепшым асяродзьдзем для іхняй расьперазанасьці. Гэтак кідаецца пад ногі навет звычайны чалавечы гонар і годнасьць. Найгорш тое, што ўсё гэта робіцца пад прыкрыцьцём нацыянальнага сумленьня, з крыклівай апэляцыяй да нацыянальнае сьведамасьці, каб сьведама зьбэсьціць гэтую сьведамасьць.

Усялякае шумавіньне пачынае тварыць розныя трэція й дваццаць трэція „сілы", часта спэкулюючы на нясьведамасьці нясумленных людзей. Гэтыя аматары апазыцыі аплёўваюць абсалютна ўсе беларускія арганізацыі, якія маюць за сабой аж колькі гадоў працы, абмаўляюць усё і ўсіх, нічога пазытыўнага ня супроцьстаўляючы таму, што робіцца, няхай навет ня зусім добра, ня ідэальна робіцца. Але-ж на гэта ніхто й не прэтэндуе. Наш агульны абавязак — дасягнуць гэтага ідэальнага, калі яно наагул магчымае.

Крытыка, дыскусія — рэч больш чым патрэбная, бо бяз гэтага ня можа быць ніякага поступу наперад. Той, хто зацікаўлены ў гэтым поступе, мусіць адно прывітаць кажнае жывое дыскусыйнае слова. Але дыскусія ператвараецца у сваю процілежнасьць, калі яна ўжо загадзя мае характар зацятага адмаўленьня. Гэтак крытыка ператвараецца у крытыканства, у звычайную пошласьць.

(Канец на 2 бач.)

## За нацыянальную дысцыпліну

У нас часамі твораць штучныя, нікому непатрэбныя й таму шкодныя разыходжаньні, супярэчнасьці, антаганізмы навет там, дзе іх няма й ня можа быць. Ці не вадэвільным зьяўляецца факт, калі з аднае не палітычнае беларускае арганізацыі выключаюць чалавека за тое, што ён адначасна належыць і да іншае, таксама не палітычнае арганізацыі. Што тут кіруе паводзінамі? Адно хіба баразёнкавыя інтарэсы селавой Макрыны.

Гэта-ж сорам, калі для „доказу" свае праваты людзі хапаюцца за нядвузначны сродак, ківаючы пальцам — мы ведаем, кім ён быў! Вось да чаго дакочваюцца незаплямленыя ягамосьці, забываючыся навет на элемантарную этыку. Няўжо праклён кону вісіць над нашымі людзьмі, калі праз дзясяткі гадоў ды праз тысячы кілямэтраў яны праносяць і захоўваюць у сваёй сьведамасьці ўдаваньне й злапамяць да тых, якія навет незалежна ад саміх сябе былі трапілі калісьці на іншы жыцьцёвы шлях? Кіруючыся нашым агульным дабром, мы мусім адно сказаць: апамятайцеся! Навет калі чалавек і быў „грэшнікам", дык ці-ж ня можа ён стацца носьботам праўды? Можа, — і ў гэтым сэнс чалавечага жыцьця. Тое, што пераварылі у „натуральнае" бальшавікі у сябе, — успрыймаецца як дзікае й пачварнае ў заходнім сьвеце. Няўжо мы яшчэ да гэтага не прызвычаіліся?!

Як ня сумна, але мы мусім сьцьвердзіць, што ў нашых шэрагах няма нацыянальнае дысцыпліны, якая вымагае й пэўнага абавязку. Таму часамі ў ролі судзьдзяў, носьбітаў нацыянальнае праваты выступаюць людзі, якія палец аб палец ня вытнуць для нацыянальнае справы, а тым ня менш забіраюць голас у розных заявах ад імя няіснуючых арганізацыяў. На гэтым іхная „дзейнасьць" і канчаецца. Праз сваё гультайскае лежабоцтва яны не сягаюць, навет у часіны натхненьня, далей трох словаў: „трэба нешта рабіць". Апэтыт да „дзейнасьці" да іх прыходзіць адно тады, калі нешта выходзіць не на іхны густ.

Тандэтная палітыканства — найгоршы наш вораг. Часта ў нас спрачаюцца на ўзроўні калгаснай насьценнай газэты. Адно нацыянальная дысцыпліна й разуменьне усёй велічы заданьняў, што стаяць перад эміграцыяй, — задзіночыць ейныя сілы для высокай вызвольнай мэты. Нас заклікае прасьцяг заўтрашняга дня. У імя велічы заданьня мы мусім адкінуць, як благую непатрэбшчыну, усё штучнае, дробязна-асабістае, каб аддаць сілы для агульнага дабра.

Няхай высокая мэта, якая стаіць перад намі, выкліча ў нас гэткае-ж высокае духовае ўзрушаньне й тады ня будзе месца ўсяму таму, што часта засьціць самую мэту. Няхай для кажнага з нас будзе найсьвятарнейшым наш нацыянальны ідэалізм, як адзіная й вычарпальная нашая адзнака.

А. Я.

—o—

П. Вішнеўскі

# Амэрыка й беларусы

(працяг)

Першай і галоўнай супярэчнасьцяй, якая паралізуе ўсе высілкі Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі (у далейшым — Амэрыканскі Камітэт), скіраваныя на стварэньне апэратыўнага цэнтру змаганьня з бальшавізмам — ёсьць палітыка „уціхамірэньня", на якой Камітэт зусім нядвузначна базуецца, хоць практыка ўжо аж надта выяўна паказала, што дэвіз „не дражніць расейцаў" — ня толькі не пасьлядоўны, але й небясьпечны пад кажным поглядам.

Калі пад тэрмінам „расейцы" разумееца тут расейскі народ — справа патрабуе пэўнае развагі. Як ня дзіўна, але калі сабе падумаць, дык аб расейскім народзе, як такім, нам на дзіва мала ведама. Як і ўсе іншыя, мы ведаем добра, чым блішчэла Масква ці Петраград і што там сяньня „процветает", але што крылася й крыецца ў глушы расейскай „дзяраўні", ці правінцыяльнага гарадку з гледзішча палітычнага, сацыяльна-эканамічнага й культурнага, — нам проста невядомае. Няма параўнаўчага студыюм нашае беларускае вёскі з гэнай „дзяруўняй", псыхікі нашага селяніна й работніка зь іхнымі расейскімі адпаведнікамі, — студыюм, якое дазволіла-б шмат судзіць аб духу й стылю жыцьця расейскага народу, аб запраўдным твары тае „рускае душы", якой часта прыпісваюцца якасьці, што ня маюць нічога агульнага зь яе натурай, а часта якраз характэрныя беларускай душы. Паколькі гэткае параўнаньне ідзе выразна на расейскую некарысьць, студыюм такое зь іхнага боку ня можа зьявіцца, тым большая яго патрэба з нашага боку, ня толькі з увагі на нас самых, але, перш за ўсе, на амэрыканцаў, якія натуральным чынам ведаюць аб гэным „схаваным" народзе ладне менш за нас.

Ня гледзячы на гэты недахоп, трэба шукаць адказу на вялікае пытаньне: ці, змагаючыся адкрыта, шчыра й прынцыпова з расейскім шавінізмам і імпэрыялізмам, Амэрыка аўтаматычна мусіць выклікаць ненавісьць да сябе і спантанічны адпор з боку расейскага народу? На наш пагляд — гэта зусім не абавязкава так. Пэўне-ж, шмат будзе залежыць ад ужываных сродкаў, мэтадаў і канчальнае мэты барацьбы, калі прыняць, што расейскі народ будзе аб іх акуратна й своечасова паінфармаваны. Але гэта ня ўсё. Цікава, якім можа быць фактычнае настаўленьне расейскага народу да таго-ж расейскага імпэрыялізму? Што расейскі народ ня ёсьць аўтарам расейскага імпэрыялізму — трэба прызнаць за пэўнае. Далей, калі-б на працягу ўсяе гісторыі жыцьцёвы ўзровень расейскага народу падымаўся прыблізна прапарцыянальна да тэрытарыяльнага росту расейскай імпэрыі, сяньня гэта быў-бы найбагацейшы й найшчасьлівейшы народ на зямлі. Усім нам ведома, што у запраўднасьці ёсьць якраз наадварот, ня гледзячы на ўсё „галавакружэньні ад усьпехаў"... — відаць, памянуты працэс адбыўся ў адваротным кірунку, гэта значыць з прыростам тэрыторыі адносны ўзровень народнага дабрабыту падаў. Калі далей зважыць усе ахвяры, пакладзеныя расейскім народам у бясконцых войнах за белых і чырвонага цароў, выходзіць, што імпэрыялізм яму шчасьця ня прынёс. Таму, адпаведна паведзенае змаганьне супроць таго-ж імпэрыялізму лягічна ня можа выклікаць негатыўнае рэакцыі расейскага народу, калі ён будзе ведаць і разумець, хто, чаму й за што змагаецца.

Калі-ж гэнае змаганьне павесьці выключна пад анты-бальшавіцкім лёзунгам, нямінуча пападаем у прынцыповую блытаніну, няяснасьці і сумнівы ў здэфініяваньні аб'екту і мэты змаганьня. Мы ня сьцьвердзім, што расейскі народ не пацярпеў ад бальшавізму, але кажам, што пацярпеў ён далёка менш за іншыя народы. Бяссумлеўна таксама, што дасягненьнямі бальшавізму, якія-б яны ня былі, ён можа карыстацца больш, чым іншыя народы. Мала таго, мы цьвердзім, што бальшавізм ня толькі прыйшоў да нас з Расеі, але што ў самым расейскім народзе і ягонай псыхіцы бальшавізм знайшоў даволі спрыяльную глебу да разьвіцьця. У той час, як на захадзе (Беларусь, Прыбалтыка) і на паўдні (Украіна, Каўказ і інш.) пануючай формай валоданьня была спрадвеку прыватная ўласнасьць на зямлю, а промыслу — прыватнае прадпрыемства вольнага рамесьніка ці прадпрыемцы, — у Расеі гэткімі формамі былі адпаведна „обшчына" і „арцель" — даволі прымітыўныя формы калектыўнага валоданьня зямлёю й калектыўнага прадпрыемства. Такім чынам, напр., фэнамэн „кулака" як багатага селяніна-хлебароба ёсьць бяссумлеўна беларуска-ўкраінскага паходжаньня. У Расеі ён мог быць толькі выняткавай зьявай (кулакі — міраеды), у той час як у нас бальшавікі называлі „кулаком" кажнага працавітага й заможнага гаспадара. Таму ня дзіва, што сасланыя ў Сібір беларускія „кулакі" амаль ня сустракалі там ссыльных расейскіх „кулакоў". Бальшавіцкая калектывістычная тэорыя й практыка прынесьлі расейскай „обшчыне" і „арцелі" высокае ўдасканаленьне іхных адсталых мэтадаў працы, у той час як у нас і інш. „акраінных народаў" яна значыла зьнішчэньне спрадвечнага ладу, аснаванага на прыватнай уласнасьці, індывідуальнай ініцыятыве і вольнай дзейнасьці.

Шмат больш можна было-б напісаць на гэту цікавую тэму, але, здаецца, дастаткова й гэтага, каб бачыць, што рэакцыя расейскага народу на антыбальшавіцкія лёзунгі можа далёка адбегчы ад тае, на якую разьлічае Амэрыканскі Камітэт. Змаганьне адно з шырмай, за якой хаваецца злачынца, ідзе дакладна па лініі яго жаданьняў — яно яго зусім не дасягае. Гэта-ж і ёсьць заданьне і сэнс самое шырмы-шыльды.

(працяг будзе)

### ГАДАВІНА УКРАІНСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

25-га студзеня сёлета украінская эміграцыя Нью-Ёрку ўрачыста сьвяткавала 35-ыя ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Украінскае Народнае Рэспублікі. Як падае газ. „Свабода" на ўрачыстай акадэміі, наладжанай з гэтае нагоды ў залі Мангэттэн Сэнтэр прамаўлялі, апрача выдатнейшых украінскіх дзеячоў, адм. Мэнц, сэн. Кэрстэн і інш.

Ад беларусаў шчыра вітаў нашых суседзяў прэм'ер Ураду БНР на Эміграцыі.

# Паважныя Зьмены

## *Вонкавае палітыкі ЗША*

Прэзыдэнт Айзэнгаўэр, галава наймацнейшае дэмакратычнае дзяржавы сьвету — ЗША, меў 2-га лютага прамову ў Кангрэсе, у якой выявіў праграму свае вонкавае й нутранае палітыкі. З вялікім напружаньнем чакаў на яе ня толькі дэмакратычны, але й дыктатарскі, камуністычны сьвет.

Як і трэба было спадзявацца, Айзэнгаўэр заявіў Кангрэсу, што даў распараджэньне сёмай эскадры амэрыканскага флёту, якая пільнавала Фармозы, зьняць блякаду гэтага абтоку і скончыць з „абаронай камуністычнага Кітаю". Бо, як далей матываваў Прэзыдэнт гэтае сваё распараджаньне, палажэньне было запраўды дзіўное: амэрыканскі флёт бараніў кітайскіх камуністых, якія забіваюць жаўнераў ЗН у Карэі. Больш таго, яны маглі гэта рабіць толькі дзякуючы блякадзе Фармозы. Дзеля гэтага, сёмая эскадра й атрымала загад — ня быць больш абаронным валам для камуністычнага Кітаю. Гэты акт, — як заявіў Прэзыдэнт, — ня мае ніякіх агрэсіўных намераў з боку ЗША, але апошнія не забавязаныя бараніць нацыю, якая вядзе супраць іх вайну ў Карэі. Карыстаючыся гэтым абаронным валам амэрыканскага флёту, камуністычны Кітай ня толькі правёў сваю інвазію ў Карэі, але й адкінуў прапанову 53-х дзяржаваў ЗН аб замірэньні, з індыйскай прапановаю улучна.

Гэткім чынам на Далёкім Усходзе паўстае зусім новае палажэньне. Нацыяналістычны Кітай і Чан-Кай-шы атрымалі магчымасьць дзеіць. Можна спадзявацца, што для камуністычнага Кітаю паўстане неўзабаве другі фронт і то фронт вельмі паважны, прымаючы пад увагу паўмільёнавую армію Чан-Кай-шы ды наяўнасьць партызанскага руху, асабліва ў паўдзённым Кітаі.

У сувязі з гэтаю пастановаю прэз. Айзэнгаўэра, карэйскі пасол у ЗША — др. Ю-Чан-Ян заявіў, што калі кітайскія нацыяналістыя правядуць шэраг высадкаў на кантынэнт, мільёны кітайцаў паўстануць на дапамогу ім супраць тыранаў. Так ці йнакш,

Канец на 4-яй бал.

# Баяздольнасьць Савецкай Арміі

У сувязі із што-раз большым ускладненьнем палітычнага палажэньня ў сьвеце й рэальнай магчымасьцяй выбуху вайны між дэмакратычным сьветам і савецкім таталітарызмам, можа на часе будуць гэтыя колькі заўвагаў аб баяздольнасьці савецкай арміі, напісаныя на падставе асабістых назіраньняў і высноваў.

Перш за ўсё, трэба усьведаміць, што савецкая армія — гэта тая-ж самая расейская армія з часоў царызму, з усімі ейнымі добрымі ды благімі характарнымі рысамі.

Расейскай арміі заўсёды была свойма нязвычайная фізычная вытрымаласьць жаўнера побач з ягонай нявытрымаласьцяй у змаганьні, здабываньне перавагі над ворагам вялізарнай людзкой масай і мала дакладная і спраўная арганізацыя штабаў. Як у першую, гэтак і ў другую сусьветныя войны расейская армія, усероўна ці царская, ці савецкая, ня выказалася ані добрым тэхнічным азбраеньнем, ані новымі стратэгічнымі канцэпцыямі. Каб давесьці гэта досыць прыгадаць два характарныя для расейскай арміі моманты, — адзін з першай сусьветнай вайны, і адзін — з другое.

У жніўні 1914 году, неўзабаве пасьля абвешчаньня Расеяй вайны Нямеччыне, дзьве расейскія арміі атрымалі ад галоўнага камандаваньня загад заняць усходнюю Прусію. Адна з арміяў, пад камандай ген. Самсонава, пайшла на Прусію ад паўдня, а другая, пад камандай ген. Рэнэнкамфа — ад усходу. Абедзьве арміі выконвалі канцэнтрацыйны рух на Кэнігсберг. Пад іхным націскам, нямецкія заслонавыя войскі, шмат меншыя за іх колькасна, пачалі плянава, у баёх, адступаць на захад. Каб ратаваць палажэньне ў Прусіі нямецкае галоўнае камандаваньне зьняло з заходняга фронту адну апэрацыйную групу й перакінула яе на усход. Гэтая апэрацыйная група й войска, што адступала пад ціскам расейцаў, палучаныя пад камандай ген. Гіндэнбурга й ягонага начальніка штабу ген. Людэндорфа, перайшлі ў канцы верасьня ў контр-наступ. На працягу блізу двух тыдняў армія ген. Самсонава была цалкам зьнішчаная. Разгром быў гэткі, што ад вялізарнае вайсковае адзінкі застаўся неўзабаве жывы й на волі толькі сам ген. Самсонаў з сваім ад'ютантам. Ратуючы свой гонар, ён застрэліўся недзе у лясох Прусіі. Ген. Рэнэнкамфу ўдалося вывесьці з Прусіі невялікую групку недабіткаў. Гэткім чынам, дзьве расейскія арміі былі ў вельмі кароткім часе цалкам разьбітыя, пры чым быў сьцьверджаны факт масавага пераходу расейскіх жаўнераў у палон.

22-га чырвеня 1941 году нямецкая армія ўжо ў новай, нацысцкай форме, пад камандаваньнем самога Гітлера ўдарыла на шырокім фронце на расейскую армію, гэтаксама ў новай, савецкай форме. Трэба зацеміць, што, рыхтуючыся да вайны з Нямеччынай, Савецкі Саюз сканцэнтраваўшы быў паміж Дняпром і Бугам, як на выпадовай базе супраць нямецкае арміі, вялізарную колькасьць войска. Ня гледзячы на гэтую падрыхтоўку, разгром савецкае арміі быў проста фантастычны. Сярод савецкіх жаўнераў успыхнула паніка. Пачаўся масавы пераход чырвоных байцоў у палон, або панічныя ўцекі. Рэшта жаўнераў, якія ня мелі нагоды здацца ў палон, або не ўхапілі ўцячы, рассыпаліся па лясох Беларусі. На працягу якіх небудзь трох месяцаў нямецкая армія зайшла блізу да Масквы, дзе й затрымалася, перапыненая ў маршы наперад жорсткімі маразамі і неспадзявана выпаўшым вялікім сьнегам, а паўдзённая частка апынулася й яшчэ далей, аж над Донам. Бяручы на ўвагу пераважальную масу савецкае арміі, вялізарныя расейскія прасторы й бездарожжа, — пераможны марш нямецкае арміі на ўсход быў запраўды вялікім асягненьнем і нагадваў гістарычныя паходы Аляксандра Македонскага.

З прыведзеных вышэй двух прыкладаў выразна відаць поўную ідэнтычнасьць арміяў царскай і савецкай. Як у першым, гэтак і ў другім выпадку, вялізарная людзкая маса ня вытрымала ўдару ў шмат раз меншага людзкімі рэзэрвамі, але дужэйшага тэхнічна ворага. Як у першым, гэтак і другім выпадку сьцьверджаны масавы пераход жаўнераў у варожы палон, вельмі благое, нескаардынаванае дзеяньне штабаў ды няздольнасьць камандзіраў ўсіх ступеняў апанаваць жаўнерскую масу.

Аднак, не заўсёды тэхнічная спраўнасьць перамагае. Вялікі ўплыў маюць на перамогу й іншыя дзейнікі, якія ня маюць із тэхнікай нічога агульнага.

Для прыкладу, прасочым коратка прабег хатняе вайны ў Расеі пасьля кастрычніцкай рэвалюцыі. Расея была тады падзялілася на два варожыя лягеры. Адзін чырвоны, пад праваднірствам камуністычнае партыі, што захапіла ўладу ў свае рукі, і другі белы, пад праваднірствам царскіх генэралаў, якія намагаліся адабраць гэтую ўладу ў камуністых. Паміж чырвоным і белым табарамі завязалася вельмі зацятая вайна, якая цягнулася аж пяць год. Тэхнічная перавага была па баку белых. Гэтыя арміі арганізаваліся на ўскраінах Расеі, на паўдні, поўначы, паўночным захадзе й Сібіры і мелі праз гэта магчымасьць беспасярэдняе лучнасьці з рэштаю сьвету. Карыстаючы з гэтага, некаторыя заходнія дзяржавы дасылалі белым арміям зброю, вопратку, харчы. У белых арміях апынуўся цьвет афіцэрства царскае арміі і яны мелі шмат выдатных камандзіраў усіх ступеняў. У гэты час бальшавікі былі гаспадарча вельмі слабыя з прычыны блякады, ня мелі ні належнае зброі, ні вопраткі, ні хлеба. Не ставала й каманднага складу. Але ня гледзячы на гэта, чырвоная армія перамагла. З гэтага можна зрабіць непамыльны выснаў, што перамогу вырашае ня толькі тэхнічная перавага, але й нешта іншае, чаго белыя арміі ня мелі. Правадыры антыбальшавіцкага руху не маглі даць масам ідэю, за якую варта было-б змагацца й паміраць. Лёзунгі, кіданыя белымі генэраламі, як „адзіная непадзельная Расея", „аднаўленьне дому Раманавых" і інш. не маглі захапіць масаў. Белыя генэралы ня былі падрыхтаваныя да тэй адказнай ролі, якую ўсклала на іхныя плечы гісторыя. Узгадаваныя на традыцыях царскага афіцэрства, яны зусім не разумелі духу часу, у якім яны жылі, былі палітычнымі невукамі і не маглі ня быць пабітымі ў змаганьні.

Бальшавіцкія правадыры, наадварот, дасканала разумелі псыхалёгію масаў. Яны кідалі ў народныя масы зыркія лёзунгі, як „самаазначэньне ўсіх народаў", „улада — народу", „зямля — сялянам, фабрыкі — працоўным" і г. п. Белыя арміі былі пабітыя чырвонымі ня зброяй, але прапагандай. Праўда, народ быў пазьней бясcорамна ашуканы камуністычнымі правадырамі, але ў той час прадугледзець гэта ніхто ня мог і камуністычныя лёзунгі зрабілі сваё. Прынадная абяцанка „адзінай непадзельнай Расеі" ня вытрымала канкурэнцыі із простым і зразумелым клічам „самаазначэньне народаў".

(працяг будзе)

**Ф. Кушэль**

# Беларускія попрадкі

Зімовыя месяцы на Беларусі, калі палі й нівы адпачываюць пад белаю сьнежнаю посьцілкай — час адпачынку для беларускага селяніна-гаспадара. Праўда, працы каля хаты, на дварэ, у хлявох усё-ж хапае, ня лічачы выездаў у лес па дровы, але гэта не „Пятроўкі", калі даводзіцца ад цямна да цямна працаваць на полі. Тое-ж тычыцца й жанчынаў. Аднак, яны і ўзімку маюць даволі працы ў хаце. Ледзь міне восень і ўпарадкуецца лен, — яны сядаюць за калаўроты прасьці кужаль на бялізну ды апратку для сям'і, на пасаг для дачок. Каб спарней, дружней ды весялей ішла гэтая аднастайная праца, у даўгія зімовыя вечары дзяўчаты ды маладыя жанчыны зьбіраюцца часта ў якой-колечы прастарнейшай хаце й разам прадуць. Гэтак і ўзьніклі своесвабліўыя беларускія працоўныя зімовыя вечарыны, якія завуцца **папрадкамі.** Ня гледзячы на цяжкую, нудную працу, якой ёсьць на справе прадзіва, — попрадкі на Беларусі мінаюць ня толькі прыемна, але часамі й вельмі вясёла і аб іх часьцяком на ўвесь год застаюцца ў дзяўчатаў незабыўныя ўспаміны. Галоўнаю асалодаю попрадкаў, як і шмат якіх іншых працоўных беларускіх абрадаў, — зьяўляецца песьня. Як толькі калаўроты пачынаюць гусьці, дык усьлед якая-колечы галасістая дзяўчына й пачынае „зачын" песьні, што падхапляецца неўзабаве ўсімі прысутнымі працаўніцамі. Ёсьць навет у бытавым цыклі беларускіх народных песьняў і гэткая адмысловая галіна, як „папрадкавыя песьні". Успомнім тут хаця-б гэткія добра ведамыя песьні, як:

„Ужо-ж сяду я
Пад вакеначкам прасьці,"

або

Ой, на гары,
на гары лён — белы кужаль",

ці

„Ужо-ж сеяла Вульяніца лянок",

і

„Ой, прачнуся я ў панядзелак,
ці не напраду я кудзеляк".

Сьпяваюцца на попрадках, апрача гэтага й г. зв. „зімовыя песьні", зь якіх асабліва папулярныя былі ў нас:

— „А белыя куры,
Вы ня пейце рана,
Ой, не кажэце,
А што ночанька мала",

або

— „Пахадзілі мае ножкі
Ды на беламу сьняжку,
Забалела маё сэрца
Ды па міламу дружку".

Жаданьні й настроі сьпявачак, аднак, нагэтулькі розныя, што звычайна, кола песьняў, сьпяваных на працягу даўгіх вячорных гадзінаў попрадкаў, — немагчыма абмяжаваць. Таму на попрадках сьпяваюцца й песьні, якія завуцца на Беларусі — „абы калі", іншымі словамі, песьні, што надаюцца да кажнае нагоды. Гэтыя песьні „абы калі" нагэтулькі разнастайныя, што абыймаюць усё, ад лірычных павольных, элегійных сьпеваў аж да жартоўных, сатырычных, а навет і даволі „салоных" рэчаў. Іншы раз, як „увойдуць у густ" дык адстаўляюць і калаўроты ды пачынаюцца ў хаце карагоды, або й іншыя гульні.

Ня дзіва, што на гэткія вясёлыя попрадкі імкнуцца трапіць і хлапцы. Больш „паблажлівыя" гаспадары й бацькі, навет, ня толькі не забараняюць гэткія спатканьні моладзі, а наадварот, яшчэ й падтрымліваюць іх, тым балей, што гэта часта вяло да сватаньня, а там і вясельля. Звычайна, хлопцы мяркавалі трапіць якраз на сярэдзіну попрадкавага вечару, калі дзяўчаты былі ўжо крыху стомленыя працай і чакалі толькі нагоды разагнуць плечы. Спадзяючыся гасьцей, дзяўчаты пачыналі каля гэтага часу нецярпліўіцца, ускаквалі, пачыналі часацца, перавязваць хусткі, заглядаць у люстэрка... Пачуўшы-ж спадзяваныя крокі й галасы, яны кідаліся жартам прытрымліваць дзьверы, якія хлапцы мусілі выкупляць за цукеркі, гарэхі, сухаркі. Узьнімалася вясёлая мітусьня. Аб кудзелі забываліся. Дзяўчаты пакідалі пяяць запраўдныя попрадкавыя песьні, а пачыналі жартоўныя, „ігравыя", з прыпеўкамі, жартамі:

— „Ехаў, ехаў каля млыну,
Бачыў дзеўку, як маліну.
Як я ехаў, яна спала,
Як я сьвіснуў — яна ўстала.

або:

Я ня буду рэдзьку сеяць,
Людзі кажуць — горка.
Я ня буду жаніціся,
Будзе біці жонка".

ці:

Як у вас, так у нас
Усе мы харошы.
Па тысячы дзяцюкі,
Дзеўкі — па тры грошы. й г. д.

У гэткім сатырычна-жартоўным жанры вядзецца й адна вельмі цікавая ды ўсьцешная гульня-сварка паміж дзяўчатамі й хлапцамі, што шыхтуюцца ў два рады, тварамі адзін да аднаго. Дзяўчаты пачынаюць:

— „Хлопцы нашы нярухавыя,
Ды ня зграбныя, ня жвавыя.
Пайшлі ў лазьзё —
Там увязьлі,
Пайшлі ў ліпкі
Там уліплі,
А пайшлі ў сяло —
Там іх памялом".

Хлапцы не адстаюць:

— „Дзеўкі нашы свавольніцы,
Да работкі ды няздольніцы,
Дзе мёд чуюць, —
Там заднююць,
Дзе гарэлку —
Там нядзельку.
Дзе-ж салодкі мёд —
Там і цэльны год".

Канчаюцца попрадкі, асабліва у г. зв. „мясаед", — і запраўднаю вечарынаю із скокамі. Скачуць пераважна папулярныя беларускія скокі, як „Лявоніха", „Крыжачок", „Юрачка", „Трасуха", „Мяцеліца" й інш. Разыходзяцца з попрадкавае вечарыны тады, калі ўжо віднець пачынае.

У музычнай камэдыі (апэрэце) „З выраю', лібрэта да якое напісала Н. Арсеньнева, а музыку М. Куліковіч, беларускім попрадкам прысьвячаецца суцэльны акт і яны стаюцца там вельмі цікавым фонам, на якім разгортваецца дзея. У гэтым акце выкарыстана й колькі нашых найлепшых попрадкавых песьняў, у тым ліку гэткая выдатная лірычная беларуская песьня, як

— „Туман, туман па даліне,
Шырок лісток на каліне"..

У дзею ўстаўленая таксама папулярная беларуская гульня „Яшчур", да якое пяюцца цікавыя й вельмі старыя словы:

— „Сядзіць, сядзіць Яшчур, ладу, ладу
у гарэхавым кусьце, ладу, ладу.
гарэшкі лушчыць, ладу, ладу,
ды вочкамі плюшчыць, ладу, ладу".

Гэтак міналі попрадкі на Беларусі, — а зь імі й даўгія гадзіны позьніх восенскіх і зімовых вечароў, — яшчэ адна зыркая й багатая праява народнага беларускага быту.

**М .К.**

## ЗВАРОТ

**ДА БЕЛАРУСКАЕ ЭМІГРАЦЫІ і УСІХ, ХТО СПРЫЯЕ БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЕ.**

**Дарагія суродзічы, воляй лёсу мы апынуліся на чужыне. У цяжкіх абставінах нашага сёньняшняга існаваньня мы пачалі шукаць і тутка свой свайго, каб разам жыць нашым беларускім жыцьцём і змагацца за жыцьцёвыя правы Беларускага Народу. Нашая моц — адно ў нашым задзіночаньні, у вернасьці нашым нацыянальным традыцыям.**

**Беларускія эмігранты з іншых краінаў сьвету, ня гледзячы на сваё параўнальна горшае матар'яльнае становішча, ужо патрапілі набыць шмат дзе свае собскія грамадзкія будынкі, свае Народныя Дамы. Мусім на гэтае здабыцца й мы. Бо пакуль мы ня будзем мець свайго собскага памешканьня, нашая праца будзе кульгаць. Собскі Дом тут, у Нью-Ёрку, дзе асялілася столькі нашых людзей, павінен быць якнайхутчэй куплены, каб мець дзе весьці нашую рэлігійную й культурна-грамадзкую працу.**

**Дарагія суродзічы, на 3-ім Кангрэсе Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, які адбыўся 1-2 сакавіка летась, Вы самі пастанавілі купіць або пабудаваць Беларускі Дом у Нью-Ёрку.**

**Дык пастараймася-ж выканаць тое, што пастаноўленае. Пачынайма зьбіраць грошы на гэтую справу, давайма ўсе, бяз розьніцы нашых палітычных паглядаў і асабістых сымпатыяў. Вызначаны дзеля ўжыцьцяўленьня гэтае справы Часовы Камітэт падлічыў, што калі кажны сябра БАЗА ахвяруе на куплю Беларускага Дому хоць 50 даляраў, — Дом будзе куплены. Грошы гэтыя можна даць не адразу, а часткамі.**

**Памятайма, што калі мы самі не дамо сабе рады, — ніхто нам не дапаможа.**

**Грошы на Беларускі Дом у Нью-Ёрку можна слаць на Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, 435 New Jersey Ave, Brooklyn 7, N. Y.**

**Часовы Камітэт па набыцьцю Беларускага Дому.**

**У ФОНД НА ПАБУДОВУ БЕЛАРУСКАГА ДОМУ У НЮ-ЁРКУ ПАСТУПІЛІ:**

| | |
|---|---|
| 1. Ад Галіны Дарашэвіч | 100 дал. |
| 2. Ад М. Гарошка | 50 дал. |
| 3. Ад З. Гарошка | 50 дал. |
| Разам | 200 дал. |

ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

У СЫБОТУ 21-га ЛЮТАГА СЁЛЕТА

у памешканьні БЕЛАРУСКАЕ ХАТКІ
461 Ashford Street, Brooklyn
адбудзецца

***ВЕЧАР ПАЭЗІІ***

паэта **РЫГОРА КРУШЫНЫ**

Пачатак а 7. гадз. увечары. Уваход вольны.

**Урад БІН і М.**

# З Беларускага Жыцьця

### РЭФЭРАТ АБ БЕЛАРУСІ

У чацьвер, 15-га студзеня, а 7-ай гадз. увечары Сп. А. Д. прачытаў рэфэрат для чужаземных студэнтаў штатнага Унівэрсытэту ў Калюмбус, Огайо, на тэму: „Камуністычная тэорыя й практыка ў дачыненьні да нацыянальнае свабоды ў СССР". Рэфэрат быў прачытаны на просьбу „Эмбассі Кляб-у", аднэй з культурных арганізацыяў тутэйшага Унівэрсытэту, якая мае за мэту памацненьне культурнага жыцьця й супрацоўніцтва між чужаземнымі й амэрыканскімі студэнтамі.

У сваім дакладзе Сп. А. Д. прадставіў Савецкі Саюз як нібы шматнацыянальную дзяржаву, якая, аднак, ў запраўднасьці зьяўляецца расейскай імпэрыяй, дзе пануе зьдзек, гвалт, нацыянальная асыміляцыя й вынішчэньне ўсяго, што ня ёсьць чыста расейскім. Нацыянальная палітыка у СССР, — гэта толькі інструмант далейшага захопніцтва.

Паколькі бальшавікі выкарыстоўваюць сваю нацыянальную палітыку дзеля манлівае прапаганды асабліва сярод народаў Азіі, — Сп. А. Д. зьвярнуўся якраз да студэнтаў гэтых краінаў із словамі перасьцярогі ня верыць бальшавіцкай хлусьці й наважана змагацца із ёю.

За прыклад нацыянальнае „свабоды" ў СССР Сп. А. Д. узяў Беларусь і паказаў слухачом усю ману й страшныя зьдзекі расейскіх бальшавікоў над нашай Бацькаўшчынай. Каб студэнты з усяго сьвету маглі лепш зразумець усе ашуканства бальшавіцкае нацыянальнае палітыкі, Сп. А. Д. зрабіў кароткі гістарычны агляд Беларусі, зьвяртаючы іхнюю увагу асабліва на часы 1917-18 гадоў і Акт 25-га Сакавіка — прагалошаньне Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі (БНР).

Тады Сп. А. Д. зрабіў грунтоўны аналіз нацыянальнага паняволеньня й вынішчэньня беларускага народу расейскім камунізмам за апошнія 35 год. Былі ўспомненыя нязьлічоныя ахвяры нашага народу, асабліва-ж вынішчэньне інтэлігенцыі ад акадэмікаў да вучняў сярэдніх школаў, „віною" якіх было толькі тое, што яны хацелі служыць сваей Радзіме, ды быць ня толькі па форме, але й па зьместу сынамі Беларусі.

Але Беларусь ня траціць надзеі, — казаў лектар. Ня гледзячы на жудасныя ахвяры, беларускі народ жыве й далей верай, што прыйдзе час, калі Беларусь станецца ізноў вольнай і незалежнай дзяржавай у сям'і свабодных народаў сьвету.

Тут Сп. А. Д. даў кароткі абраз беларускага нацыянальнага жыцьця ў эміграцыі, пералічыў ягоныя арганізацыі, мэтаю якіх ёсьць — аднаўленьне Незалежнае Беларускае Дэмакратычнае Рэспублікі ў ейных этнаграфічных межах. Прыгэтым Сп. А. Д. даў і гістарычны нарыс беларускага нацыянальнага назову, ды паказаў, што наш народ нічога супольнага з расейскім ня мае, наадварот, маючы на працягу вякоў сваю собскую дзяржаву, ён усьцяж бараніў яе із зброяй ў руках супраць адвечнае агрэсіі Расеі.

Пасьля больш чымся гадзіннага рэфэрату гэтак сама доўга цягнулася дыскусія. Усе прамоўцы — студэнты сьцьвердзілі, што Беларусь і ейны Народ мае поўнае права на незалежнасьць, на сваю нацыянальную асьвету й культуру. Акрамя таго, таму што Беларусь мае сваё прадстаўніцтва ў ЗН, беларускі народ мае права й цяпер на свабоду слова, прэсы, рэлігіі, права на палітычную свабоду выбіраць прадстаўнікоў ў свае арганізацыі ды ўстановы, ўладжваць свае справы з іншымі народамі, у тым ліку й расейскім, з гледзішча сваіх собскіх паглядаў і інтарэсаў.

Пасьля афіцыйнае дыскусіі лектар яшчэ доўга гутарыў з паасобнымі студэнтамі, якія моцна цікавіліся нашай гісторыяй і культурай. Вялікае зацікаўленьне выклікалі беларускія газэты й часапісы, якія дакладчык прынёс з сабою. Хаця блізу ніхто з студэнтаў ня мог чытаць пабеларуску, кажны прасіў растлумачыць яму, што напісана ў тым ці іншым артыкуле ды што прадстаўляе тая ці іншая фатаграфія? Дакладчык атрымаў шмат падзякаў як ад управы Клюбу, так і ад шматлікіх прысутных за свой зьмястоўны рэфэрат.

Слухалі рэфэрату студэнты з Японіі, Карэі, Кітаю, Філіпінаў, Індыі, Пакістану, Бурмы, Новае Зэляндыі, Аўстраліі, Італіі, Грэцыі, Францыі, Турцыі, Ірану, Іраку, Палестыны, Эгіпту, паўдзённай Афрыкі, Балтыцкіх краінаў, Украіны, Чэхіі, Славаччыны, Канады, Паўдзённай Амэрыкі й ЗША, усяго было іх каля 200 асобаў. Найбольш цікавіліся камуністычнай прапагандай студэнты Індыі й Блізкога Усходу.

Шкада толькі, што дакладчык ня меў інфармацыйных бюлетэняў аб Беларусі на ангельскай мове. Калі якія беларускія арганізацыі, або паасобныя беларусы маюць брашуры „Беларусь пад расейскай акупацыяй", Сп. А. Д. просіць прысылаць іх яму на Рэдакцыю „Беларуса".

### ЧАРГОВЫ РЭФЭРАТ БІН і М.

31-га студзеня сёлета, як адзін з цыклю рэфэратаў, запляна́ваных Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, сп. др. Тумашам быў прачытаны рэфэрат на тэму: „Беларускія Культурныя Уплывы на Расею".

Даволі ладная грамада слухачоў-беларусаў, як сяброў Інстытуту, гэтак і гасьцей, з увагаю праслухала даклад на вельмі цікавую й мала знаную навет бальшыні нашай інтэлігенцыі тэму.

Вялікае Княства Літоўскае, — дзяржава нашых продкаў, — казаў рэфэрэнт, — была, як ведама, гаспадарствам наскрозь заходня-эўрапэйскім. З гледзішча нутранога дзяржаўнага ладу й культурных асягненьняў, нашае Вялікае Княства стаяла непараўнальна вышэй за тагачасную дэспатычную й зусім блізу някультурную Маскоўшчыну. Ня дзіва, што беларускія культурныя сілы, што траплялі ў Маскву ці выяжджаючы туды дабраахвотна, на запросіны, ці не з свае волі закіненыя туды ў выніку шматлікіх войнаў, якія давялося весьці нашым продкам із Маскоўшчынай у абароне свае незалежнасьці, — несьлі із сабой на усход і сваю вышэйшую культуру. Мала каму ведама, што якраз беларусы прынесьлі ў Маскоўшчыну друкарства, арганізацыю школьніцтва, лепшую тэхніку й стыль будаўніцтва, царкоўнага малярства й шмат іншага. Асабліва шмат прычыніўся да разьвіцьця культурнага жыцьця ў Маскоўшчыне шырака ведама беларускі культурны дзеяч 17-га ст. Сымон Полацкі, які быў як на тыя часы, высака-адукаваным чалавекам, чым вельмі розьніўся навет ад вышэйшага маскоўскага сьвятарства. Неўзабаве маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч паклікаў Сымона Полацкага на настаўніка сваіх дзяцей. На гэтым становішчы Сымон Полацкі й пашыраў сваю культурна-асьветніцкую дзейнасьць на працягу год. Ён быў першым чалавекам, які пазнаёміў маскоўцаў з пісаньнем вершаў. Меў ён і вялікі ўплыў на царкоўнае жыцьцё Масквы, дзе ў тую пару царква якраз перабудоўвалася й „ачышчалася" патрыярхам Ніканам.

Культурныя ўплывы Вялікага Княства Літоўскага на Маскоўшчыну ня спыняліся і ў пазьнейшыя гады. Навет г. зв. „гражданку", шрыфт, уведзены ў Маскве за часоў Пятра, заўдзячваюць расейцы беларусу Капіевічу.

Пасьля рэфэрату пачалася цікавая дыскусія на тэму пачутага, якая сьветчыла аб вялікім зацікаўленьні слухачоў рэфэратам.

### ПРЫРОДА У ТВОРСЬЦЬВЕ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

будзе тэмаю рэфэрату Ант. Адамовіча ў сыботу 21 лютага ў Крывіцкім (Беларускім) Навуковым Т-ве Пр. Скарыны. Рэфэрат будзе ў памяшчэньні Украінскага Літаратурна-Мастацкага Клюбу, 149 2-ая Эвеню (паміж 9 і 10 вуліцамі). Пачатак у 7 гадзінаў увечары.

### ПАДЗЯКА

Царкоўны К-т Б. А. П. Ц. у Нью-Ёрку выказвае шчырую падзяку усім асобам, якія прычыніліся чыннай дапамогай пры ладжаньні вечарыны з пастаноўкаю камэдыі Фр. Аляхновіча „Чорт і баба".

Асаблівую падзяку Камітэт выказвае кіраўніку пастаноўкі рэжысэру сп-ру І. Паланевічу, артыстым-аматарам сп-ні Кушэль Н. (малодшай), сп-чні Г. Ганчарэнка, сп-чні А. Орса і сп-ру Б. Данілюку. Таксама шчырая падзяка належыцца сп-ні Б. Вержбаловіч, сп-ні Кушаль Арсеньнявай, сп-ні Я. Каханоўская, сп-ні Зыбайла і сп-ром Зыбайлу й Русаку, якія няўтомна працавалі пры буфэце.

**Царкоўны К-т.**

### ВАЖНЫЯ ЗЬМЕНЫ ВОНКАВАЕ ПАЛІТЫКІ ЗША

(канец)

малая Фармоза стаецца вялікім пытаньнем для дэмакратычнага сьвету й не малою пагрозаю для чырвоных агрэсараў.

Тымчасам, абвешчаная прэз. Айзэнгаўэрам праграма устрывожыла Ангельшчыну, якая прызнала камуністычны Кітай ды, у сувязі з новай сытуацыяй, баіцца за свой Ганконг. Бэвэн навет склікаў вялікі мітынг у Лёндане, на якім войстра крытыкаваў жаданьне прэз. Айзэнгаўэра даць магчымасьць кітайскім нацыяналістым атакаваць камуністых, бо гэта, быццам, можа пашырыць вайну. Паводля гэткіх „лібэралаў" права на пашырэньне вайны маюць толькі камуністыя, а дэмакраты павінны адно здаваць свае пазыцыі. Гэтага й жадалі ў свой час пэўныя ангельскія лібэралы пасьля прызнаньня камуністычнага Кітаю, калі дамагаліся передачы яму Фармозы й выгнаньня Чан-Кай-шы. Непакоіцца з прычыны прамовы прэз. Айзэнгаўэра і Чэрчыль. Што датычыць Францыі, дык палітычная думка тут яшчэ не выкрысталізаваная. Трэба спадзявацца, што яна прывітае новае распараджэньне прэз. Айзэнгаўэра ў сувязі із Індакітаем, бо магчымыя дэсанты кітайскіх нацыяналістых могуць мець бессумлеўны уплыў на ейную вайну з чырвонымі.

У сваей прамове прэз. Айзэнгаўэр абвесьціў таксама аб ануляваньні усіх сакрэтных умоваў падпісаных ў мінулым, якія некарысна ўплываюць на добрыя дачыненьні з саюзьнікамі. Прэзыдэнт меў тут на ўвазе умовы, падпісаныя ў Тэгеране, Ялце й Патсдаме.

**ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ У АМЭРЫЦЫ**

**ладзіць 14 ЛЮТАГА 1953 г.**

**у LENOX ASSEMBLY HALL**
**252-254 Second Street New York City**
(паміж Ave „B" і „C")

**ВЯЛІКІ**
**КАНЦЭРТ — БАЛЬ**

Грае ведамая аркестра ВАСІЛЯ БОСАГА
Добры буфэт. Атракцыёны.

**Пачатак а гадзіне 7:30 вечара.**

**Білеты можна набыць у:**
Сп-і Галіны Ганчарэнка, — 33 Norfolk St. N. Y. C.
і Сп-ра Барыса Данілюка, — 1455 East New York Ave Brooklyn 12. N. Y.
а у дзень Канцэрту-Балю пры **ўваходзе.**

**УСІХ ВЕТЛІВА ЗАПРАШАЕМ.**